ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

10 • 2016
кастрычнік

Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




# Пра тое, як чуткі дапамагаюць!

*Па матывах кінастужкі «Залатое цяля»*

























Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Лявон АНЦІПЕНКА

# АЎТАРЫТЭТ

Байка

Ішла нарада.
Янот сабраў усіх Баброў,
Каб зачытаць пасланне
ад звяроў —
Як трэба «лесарубам» зімаваць,
Далі яны парады.
Мядзведзь мяркуе:
— Каб было ўсё гладка,
Лепш будаваць бярлог,
чым хатку.
Там суха, цёпла,
Смачны у запасе мёд —
Перазімуеце вы лёгка,
без турбот.
Воўк іншай думкі пра мароз:
Зімой між сосен і бяроз
Гуляць найлепей зграяй,
Жылля зусім ён будаваць
не раіць.
— Чакай! А ты? — Бабры
пытаюць. —
Як лічыш, што рабіць зімой?
— Мядзведзь — аўтарытэт, яго
я паважаю.
Згаджуся з Касалапым — вывад
мой.

Калі без думкі ўласнай
Гэтакі сустрэнецца Янот,
Шмат можа нарабіць ён
Падначаленым клапот.

Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Наталлі КУЛЬГАВАЙ.




Віктар ЛОЎГАЧ

# Чаго турбавацца



*Іранеска*

Разам з некалькімі суседзямі-добраахвотнікамі мы вырашылі ў выхадны дзень прыбраць ад смецця і бытавых адыходаў бліжэйшы ад райцэнтра сасновы бор. Набліжалася восень, а ў тым ляску надта добра заўсёды раслі грыбы. Параіўшыся, вырашылі запрасіць яшчэ аднаго агульнага знаёмага – Рыгора Зязюлькіна. Тым больш, ягоная жонка і летам, і восенню амаль не выходзіць з гэтага бору.

– Дружа, паехалі з намі на ўборку, – прапанавалі мы, – там і тваім рукам хопіць працы.

– Я што, дурань, каб у свой выхадны дзень швэндацца па лесе і збіраць смецце? Лепш на канапе паляжу ды кіно ці спартыўны матч пагляджу.

А калі летам здарылася спякота і засуха, да нас завітаў ляснічы Гаўрыла Ахрэмавіч:

– Мужчыны, рыдлёўкі трымайце напагатове. Раптам пажар здарыцца, тады абавязкова ваша дапамога спатрэбіцца.

Мы зноў прыйшлі да Рыгора Зязюлькіна і агучылі гэту просьбу. На што ён адказаў:

– Знайшлі, чым мяне турбаваць! Грошы леснікам плацяць добрыя, вось хай самі і змагаюцца з вогненнай стыхіяй. Я лепш паеду пакупаюся.

Зімой зноўку паклікалі сябра, каб дапамог сцежкі соллю пасыпаць, бо ў галалёдзіцу людзі падаюць і калечацца.

Той, як і раней, адмовіўся:

– Навошта мне клапаціцца! Я акуратна хаджу, вось хай і іншыя не носяцца, а пад ногі глядзяць. Мне па вуліцы лішні раз хадзіць нельга, яшчэ захварэю.

А нядаўна нехта з калег яму паведаміў навіну: тым працаўнікам, хто не курыць, павялічаць зарплату. Маўляў, наваколле дымам і нікацінам не забруджваюць. Што тут пачалося з Зязюлькіным! Уміг падарваўся з месца і давай удакладняць:

– Як жа так? А на колькі? Я гатовы кінуць сёння ж! Мне ў радасць клапаціцца пра прыроду!

Такія людзі, як Зязюлькін, могуць пачаць турбавацца і дзейнічаць толькі тады, калі гэта датычыцца матэрыяльнай выгоды.

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*






Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА.

**Міхась МІРАНОВІЧ**




## Усё змянілася



Калісьці ты была
Такой харошай!
А зараз часта
З качаргой чакаеш.
Казала,
Што кахаеш не за грошы,
Ды без палучкі
Ў хату не пускаеш!..

## За што любяць?



Я так скажу табе,
Як брату:
За грошы
Любяць нас кабеты.
Не прынясі хоць раз
Зарплату –
Адразу
Зразумееш гэта.

## Непазбежнасць



– Як непазбежнае
Прымі, –
Казала маці
Дачцэ Зосі, –
Што колькі мужа
Ні кармі,
Ён заўтра зноўку
Есці просіць!..

## Муж – не жаніх




– Як рукі ты прыходзіў
Прасіць –
На руках, казаў,
Будзеш насіць!
А цяпер вось не носіш...
Чаму ж?..
– То жаніх абяцаў,
А я – муж!

## Сямейны дыялог



Як муж ступае
На парог –
У хаце
Цішыні не быць.
Вядуць муж з жонкай
Дыялог:
Яна гаворыць,
Ён маўчыць...

## У нагу



Пра наш шлюб
Я заўважыць магу,
Калі б вы
У мяне запыталіся:
З жонкай крочыў
Заўсёды ў нагу,
Хаця ногі парой
Запляталіся.

## Справа ў колькасці



– А ты, – спытаў Анжэлу
Вася, –
За грошы б замуж
Падалася?
– Залежыць гэта,
Мой харошы,
Ад колькасці
«Зялёных» грошай.

## Трагічны фінал



Казаў сябрам жаніх
У п'яным стане:
– Прызнацца шчыра,
З гора я напіўся.
Трагічна
Завяршылася каханне,
Бо з любаю
Сягоння ажаніўся!..




Люся прагульвалася каля дома з двухгадовай дачушкай Сонечкай. Малая весела шчабятала пра рознакаляровыя лісцікі на дрэвах, збірала іх у букет. І вось, праходзячы ўздоўж паркоўкі, жанчына запрыкмеціла легкавушку, якая тузалася туды-сюды, намагаючыся стаць на свабоднае месца. Неўзабаве вадзіцель даў газу, амаль узляцеў на тратуар і спыніўся за метр ад Люсі і Сонечкі.

– Зусім ашалелі? – апамятаўшыся ад спалоху, крыкнула жанчына.

З машыны выскачыла эфектная бландзінка ў кароткай сукенцы і на высокіх абцасах і затараторыла:

– Вой, прабачце, не ведаю, як так атрымалася! У вас усё добра? Я сама спужалася, рукі дрыжаць і сэрца калоціцца. Не мой сёння дзень! Другі раз ледзь чалавека не збіла, – тут яна спынілася, здзіўлена паглядзела на жанчыну з дзіцём і няўпэўнена прамовіла:

– Люся? Гэта ты? Няўжо не пазнала мяне?

Тая нерашуча адказала:

– Так. А вось вас я не пазнаю, можа, вы памыліліся?

– Ну, даеш! – засмяялася бландзінка. – Я ж Светка Жукава, адзінаццаць гадоў за суседнімі партамі прасядзелі.

У Люсі акругліліся вочы:

– Светка? Ніколі б цябе не пазнала! Ты так змянілася, ад знаёмай мне па школе дзяўчынкі нічога не засталося, а прайшло ўсяго гадоў дзесяць... Ці дванаццаць?

– Якая розніца, колькі. Ведаеш, холадна стаяць на вуліцы, паехалі ў гандлёвы цэнтр, ён тут непадалёк. Там і дзіцячы пакой ёсць з рознымі цацкамі, хай малая пагуляецца, а мы паразмаўляем, узгадаем школьныя гады, – прапанавала Светка.

– Ой, не! У мяне нават кашалька з сабой няма, – адмовілася Люся.

Бландзінка махнула рукой і засмяялася:

– Я плачу, сядай у машыну і паехалі.

Люся апамятацца не паспела, як апынулася ў аўто, а потым каля гандлёвага цэнтра. Сонечку Люся пакінула ў дзіцячым пакоі. Аднакласніцы ўладкаваліся побач у невялічкім кафэ.

– Зараз нам каву прынясуць з піроҗнымі, а ты расказвай, як пажываеш? – нецярпліва залапатала Светка.

– Ды звычайна. Здаецца, нічога звышнатуральнага. Пасля школы паступіла ў педінстытут. Некалькі гадоў адпрацавала ў школе. Выйшла замуж, а тут і Сонечка нарадзілася. Вось зараз яшчэ ў дэкрэтным адпачынку знаходжуся... Лепш адкрый сакрэт, як ты так змянілася?

– Гэта доўгая гісторыя. Ужо ў школе я зразумела, што для жанчыны больш важна мець прывабную знешнасць, чым розум, адукацыю. Прайшла курсы сакратаркі, уладкавалася на працу з добрай зарплатай. Як толькі з'явіліся грошы, запісалася ў трэнажорную залу, на семінары па макіяжы і манікюры. Канешне, спачатку было складана, нават на прадукты грошай не хапала. Але тым лепш: хударлявасць і заняткі спортам зрабілі сваё – на мяне пачалі азірацца мужчыны.

Афіцыянтка прынесла каву і ласункі. Люся ж спачатку нават не заўважыла гэтага, уся яе ўвага была засяроджана на Светцы. Тая, пасміхаючыся, працягвала свой аповед:

– Што потым? Вырашыла пазбавіцца ад свайго мышынага колеру валасоў і перафарбавацца ў бландзінку. Як бачыш, мне спадабалася!

Агледзеўшы аднакласніцу, яна прапанавала:

– Магу, дарэчы, параіць цудоўны салон. Я туды ўжо гадоў пяць хаджу. Усяго 150 рублёў – і твае валасы стануць бліскучэць, быццам дыяменты. Трымай візітоўку.

Люся, нібы пад гіпнозам, працягнула руку і моўчкі ўзяла паперку.

– Дык вось, амаль кожны дзень да мяне пачалі падыходзіць і знаёміцца хлопцы. Але што мне тыя бедныя студэнты? Таму я працягнула апгрэйд свайго цела. Наступным этапам былі грудзі. Зразумела, што аперацыя на той момант каштавала не танна, давялося ўзяць крэдыт. Аднак якая ў мяне пасля гэтага прывабная

фігура стала! Слухай, я нядаўна зноў пластыку грудзей рабіла, заплаціла паўтары тысячы долараў. Раю і табе задумацца. Муж, павер мне, будзе шчаслівы. Чакай, зараз знайду візітоўку цэнтра, – Светка доўга поркалася ў сумцы, пакуль нарэшце не адшукала патрэбны квіток і паклала перад сяброўкай.

Зрабіўшы некалькі глыткоў кавы, бландзінка распавядала далей:

– Дзякуючы такім зменам у мяне з'явіўся багаты кавалер, які закахаўся па самыя вушы. А я гэтага і чакала ўвесь час. Ты б ведала, як ён захапляўся маёй прыгажосцю! На руках мяне насіў. Але я адразу сказала, што каб падтрымліваць усё гэта ў належным выглядзе, неабходны грошы. Мой мужчына спачатку здзівіўся, аднак потым згадзіўся, калі ўбачыў, як яго сябры слінкі пускаюць, гледзячы на мяне. Так за два гады я зрабіла яшчэ некалькі пластычных аперацый. Паставіла імплантанты ў бёдры. Пасля чаго мая фігура стала адпавядаць міжнародным параметрам прыгажосці – 90-60-90. І крышачку змяніла нос, бо мне ён ніколі не падабаўся. Гэта абышлося ў агульным... – тут на хвілінку Светка задумалася, праводзячы ў галаве разлікі. – Здаецца, каля пяці ці шасці тысяч долараў. Дакладна нават не памятаю, не я ж плаціла.

Люся здзіўлена лыпала вачыма:

– Нічога сабе. Гэта ж балюча, мабыць, ды і небяспечна. Як-ніяк, сапраўдныя аперацыі. Табе не страшна?

Бландзінка адмахнулася:

– Ай, нічога жахлівага ў гэтым няма. Ды і з большага я ўжо ўсё з сабой зрабіла. Толькі вось на днях вусны павялічу і на некалькі гадоў спынюся. Хочаш, пайшлі са мной. Працэдура каштуе крыху больш за 30 долараў. Ну, згодна?

– Дазволь мне падумаць, – ціхенька прамовіла Люся, потым зірнула на гадзіннік і ўсклікнула: – Мне ж Сонечку трэба спаць класці, ужо амаль дзве гадзіны!

Аднакласніцы хутка дапілі каву, пасля чаго Светка адвезла маці з дачкой дамоў.

Вечарам прыйшоў муж Люсі і заспеў яе на кухні. Жонка самотна глядзела ў акно і, здаецца, нікога не заўважала.

– З табой усё добра? Нічога не здарылася? – з асцярогай запытаўся мужчына.

– Слухай, а ты не хацеў бы, каб я штосьці змяніла ў сваёй знешнасці? Грудзі павялічыла ці вусны большымі зрабіла. А можа, мне ў бландзінку перафарбавацца? Я ж такая звычайная, – і слёзы пацяклі з Люсіных вачэй.

– Дурненькая! – муж падышоў, абняў жонку і засмяяўся. – Мабыць, я даўно казаў, што ты для мяне самая прыгожая. І без накачаных вуснаў.

Люся перастала плакаць, паглядзела на мужа і з пяшчотай у голасе прашаптала:

– Дзякуй, ты таксама для мяне самы лепшы.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**





Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Мімаходзь

І ў нізкага чалавека з'яўляюцца ўзнёслыя думкі.

Заварыць вялікую кашу можа не толькі кухар.

Добра, што на нашай грэшнай Зямлі яшчэ захаваліся райскія куточкі.

Язык развязваецца ў слабога чалавека, які не змог завязаць з моцнымі напоямі.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г.п. Уваравічы.*






Малюнак Гілермы МАРДЗІЛЫ (ЗША).




Малюнак Валерыя ТАРАСЕНКІ (Расія).




Малюнак Валерыя ЧМЫРОВА (Украіна).




Малюнак Ігара МАКАРАВА (Расія).



Малюнак Валерыу КУРТУ (Малдова).




У рэдакцыю газеты зайшоў сімпатычны малады чалавек гадоў дваццаці пяці. Папрасіў аказаць незвычайную паслугу — апублікаваць тэкст звароту да каханай дзяўчыны, з якой ён пасварыўся.

— Любы капрыз за вашыя грошы! — сказалі яму дзяўчаты ў аддзеле рэкламы і аб'яў, папярэдне параіўшыся з галоўным рэдактарам. — Давайце ваш тэкст!

— У мяне яго няма, — сумеўся хлопец і апусціў вочы. — Я не ведаю, як гэта напісаць, можа, у вас лепш атрымаецца...

— Тады звярніцеся да рэдактара аддзела пісьмаў Максіма Іванавіча. Ён сядзіць у суседнім кабінеце!

Убачыўшы, што хлопец саромеецца, дзяўчаты самі прывялі яго да месца і папрасілі ў рэдактара напісаць тэкст.

— Чаго і ў каго вы хочаце прасіць? — пачаў удакладняць Максім Іванавіч.

— Нядаўна я моцна пакрыўдзіў сваю сяброўку, — стаў расказваць візіцёр, не адрываючы вачэй ад стала з паперамі. — І цяпер яна не хоча не тое што размаўляць са мной, а нават бачыць! Я без яе жыць не магу! А вашу газету сяброўка выпісвае і чытае. Вось я і падумаў, што яна ўбачыць мой зварот і ўсё даруе...

— Як жа завуць вашу сяброўку?

— Тамара.

— Добра, зараз зробім! — і Максім Іванавіч, спачуваючы няшчаснаму закаханаму, напісаў сваёй рукой такі тэкст: «Любая мая Тамара! Прашу ў цябе прабачэння за нетактоўныя паводзіны, за тыя нядобрыя словы, якія вырваліся ў мяне ў твой адрас. Я глыбока раскайваюся. Вельмі прашу цябе — даруй, калі ласка! Пасля перажытага мной такое ніколі не паўторыцца, магу цябе ў гэтым запэўніць!»

— А які подпіс паставім? — спытаў Максім Іванавіч у хлопца.

— Ведаеце, — зноў збянтэжыўся той, — я б не хацеў, каб маё імя было надрукавана ў газеце...

— Але ж подпіс павінен быць! Можа, у вас ёсць нейкія свае ласкавыя мянушкі?

— Падпішыце «Твой раб кахання»! — рашуча прамовіў пакутнік.

Максім Іванавіч так і зрабіў. Хлопец унёс у касу патрэбную суму грошай, а рэдактар аддзела пісьмаў набраў тэкст на камп'ютары. І тут яго паклікаў да сябе начальнік па нейкай іншай справе. Максім Іванавіч механічна, на хаду паклаў рукапісны тэкст у кішэню пінжака...

А вечарам дома, шукаючы ключы, незнарок выцягнуў і паперчыну, на якой была напісана тая незвычайная просьба хлопца.

— Пакажы, што гэта ў цябе там за цыдулка? — падхапілася з крэсла жонка.

Не паспеў Максім Іванавіч раскрыць рот, каб паведаміць пра сённяшні дзіўны выпадак сваёй Наталлі Алегаўне, як тая ўзняла лямант:

— Дык вось чаму ты амаль кожны вечар затрымліваешся на рабоце! Аказваецца, у цябе завялася каханка! А з выгляду такі сціплы! Праўду людзі кажуць, што ў ціхім балоце чэрці водзяцца! Ён, бачыце, ужо раб кахання! Хто такая Тамара?! Дзе ты пазнаёміўся з ёй? І чаму вы пасварыліся? У мяне ты ніколі так не прасіў прабачэння, як у гэтай шэльмы! Усё, я з табой не размаўляю!

Назаўтра, калі Максім Іванавіч прыйшоў на працу, усе заўважылі, што ў яго нешта здарылася. Выглядаў, як у ваду апушчаны. Першымі не вытрымалі дзяўчаты з аддзела рэкламы і аб'яў:

— Што з настроем? Можа, дапамагчы чым?

— Давядзецца вам зноў даваць аб'яву аб прымірэнні «раба кахання», — маркотна пажартаваў Максім Іванавіч. — Толькі ўжо зварот напішам не да Тамары, а да маёй Наталлі.

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*






За сялом нылі ваўкі.

Хамчыстка.

Вышэйшая спартыўная ліпа.

Валейболь.

**Даслаў Янусь МАЛЕЦ,**
*г. Мінск.*




Віталь ЖУРАЎСКІ

# Ініцыятыва з папраўкай

*Аднаактовая камедыя*

*Імправізаваная сцэна, на якой адбываецца рэпетыцыя заводскага тэатра самадзейнасці. Уваходзіць дырэктар. Артысты спыняюць ігру і ідуць яму насустрач. У цэнтры сцэны ўтвараецца круг.*

**Дырэктар.** Добры дзень, хлопцы! Вось гляджу на вас і радуюся. Так прыемна мець справу з ініцыятыўнай моладдзю. Правільна зрабілі, што вырашылі арганізаваць у нас на прадпрыемстве тэатр мініяцюр!

**Кіраўнік.** Дзякуем, прыемна такое чуць, але, калі больш дакладна, тэатр мініяцюр і сатыры.

**Дырэктар.** Цудоўнае жаданне, асабліва ў рэчышчы дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Будзе выдатны прыклад для пераймання, і іншыя заводы за намі пацягнуцца. Можаце разлічваць на любую падтрымку з майго боку. Ну, паказвайце, што ў вас атрымліваецца.

**Кіраўнік** *(з хваляваннем).* Мініяцюра першая. Дзеянне адбываецца на адным з прадпрыемстваў нашай галіны. Дык вось, уявіце: у чаканні сур'ёзнага падрадчыка.

*Дырэктар з кіраўніком тэатра адступаюць. На сцэне застаюцца тры артысты. Адзін з іх выконвае ролю начальніка, астатнія два — ягоныя падначаленыя.*

**Начальнік.** Намі заключаны дагавор на рамонт ацяпляльнага катла. Падрадчык — міжнародны холдынг. Да нас прыедуць каля трыццаці выдатных спецыялістаў. Прыняць іх трэба на вышэйшым узроўні, каб усе засталіся задаволеныя. Такія людзі патрабуюць асаблівага стаўлення!

**Першы падначалены.** А дзе ж мы іх размесцім?

**Начальнік.** Хоць да сябе дамоў запрашайце, але стварыце нашым гасцям самыя камфортныя ўмовы пражывання. Каб ні аднаго наракання з іх боку не было.

**Другі падначалены.** Навошта дадому? У нашым інтэрнаце некалькі пакояў вызвалім, камендант іх прыбярэ, зробіць касметычны рамонт. Павінна добра атрымацца!

**Начальнік** *(нервова).* Вы разумееце, што гаворыце? Які інтэрнат?! Прыедуць лепшыя спецыялісты, прафесіяналы! Забраніруйце гасцініцу. Усім забяспечце дастаўку да месца працы і гарачае харчаванне.

**Другі падначалены** *(гледзячы ў акно).* Здаецца, прыехалі. Аўтобус каля прахадной спыніўся.

**Начальнік.** Пачынаецца... Сустрэньце спецыялістаў і правядзіце сюды.

*Уваходзяць два чалавекі.*

**Начальнік** *(здзіўлена).* Двое? А дзе ўсе астатнія?

**Першы візіцёр.** І так шмат людзей...

**Начальнік.** А вы ўдваіх справіцеся з працай?

**Другі візіцёр.** Дык што тут цяжкага? Да вясны ўправімся!

**Начальнік.** Як да вясны? У кастрычніку ацяпляльны сезон пачынаецца. Да гэтага часу кацёл павінен быць адрамантаваны!

**Першы візіцёр.** Раз павінен — няхай працуе. Да нас якія пытанні?

**Начальнік.** Дык кацёл павінен у кастрычніку ўжо працаваць на поўную моц...

**Другі візіцёр.** Не лезьце ў нашу справу! Сказалі, што вясной будзе гатовы, значыць, чакайце. Лепш пакажыце, дзе нам можна размясціцца.

**Начальнік.** Пачакайце. Давайце вы зараз патэлефануеце сваім кіраўнікам, няхай вышлюць яшчэ спецыялістаў. Нам абавязкова трэба скончыць рамонт у запланаваныя тэрміны.

**Першы падначалены.** А мы створым усе ўмовы для добрага жыцця!

**Другі падначалены.** Дарэчы, мы з вашай арганізацыяй разлічыліся наперад. Заплацілі за цэлую брыгаду, а вас толькі двое.

**Першы візіцёр.** Усё правільна. Толькі астатнія — хто ў адпачынку, хто за мяжу паехаў... Ды і па дамове як было? Адразу грошы, а праца потым. Чаго вы абураецеся? Мы грошы ад вас атрымалі? Атрымалі! Ну, а працу выканаем... потым.

**Начальнік.** Тады што вы тут удвух робіце?

**Другі візіцёр.** Нам не пашанцавала, вось і давялося да вас ехаць. Але вы не хвалюйцеся, да вясны абавязкова ўправімся.

*Гучаць апладысменты.*

**Кіраўнік.** Ну, як вам?

**Дырэктар.** Гэта, канешне, смешна, але мне не падабаецца.

**Кіраўнік** *(здзіўлена).* Чаму?

**Дырэктар.** Аб'ект для крытыкі выбралі дрэнны. Вы ж крытыкуеце нашых падрадчыкаў! Калі яны ўбачаць, у якім непрывабным выглядзе мы іх выстаўляем, ніколі да нас не паедуць. Толькі гэтага нам яшчэ не хапала!

**Кіраўнік.** Як скажаце. Тады ёсць яшчэ пякучая мініяцюра пра наша прадпрыемства.

**Дырэктар.** Гэтага наогул не трэба. У нас узорна-паказальны завод. План заўсёды выконваем. Мы не маем недахопаў, якія можна высмейваць.

**Кіраўнік** *(расчаравана).* Але ж мы тэатр мініяцюры... каго нам тады крытыкаваць?

**Дырэктар.** Думайце. У вас погляд на жыццё яшчэ свежы. Шукайце тэмы ў іншых галінах.

**Першы артыст.** Тады, можа, настаўнікаў?

**Дырэктар.** Не, высмейваць іх нельга. Гэта падрывае аўтарытэт педагога ў вачах дзяцей.

**Другі артыст.** А лекараў?

**Дырэктар.** Медыкаў не чапайце. Людзі пасля вашай крытыкі наогул могуць перастаць верыць урачам. Ды і профіль у нас зусім розны. Тым больш, у іх ёсць Міністэрства аховы здароўя, няхай там ствараюць свой асабісты тэатр і выкрываюць недахопы.

**1-шы артыст.** Дазвольце хоць пра пажарнікаў мініяцюры паказваць.

**Дырэктар.** Мабыць, забыліся, што ў нас праверка па лініі МНС яшчэ не скончылася? Вы тут пасмеяцеся з пажарнікаў, а мне потым адказвай за такія жарты.

**Кіраўнік** *(са злосцю).* Вось вы згаджаецеся, кажаце, што наша ініцыятыва правільная. А нам, атрымліваецца, нічога паказваць нельга. Значыць, не быць нашаму тэатру мініяцюр і сатыры?

**Дырэктар.** Чаму гэта?

**Першы артыст.** А як інакш?

**Дырэктар** *(задумена).* Хм... А вы спяваць умееце?

**Першы артыст.** Умеем!

**Дырэктар.** А танцаваць?

**Другі артыст.** Умеем!

**Дырэктар.** Вось і выдатна! Тады ствараем тэатр песні і танца!

*Гучыць вясёлая музыка, усе пачынаюць танцаваць.*

*г. Жодзіна.*



**Віктар ЛОЎГАЧ**

# Байкі ў прозе

## Гарэлка і Хлеб

Гарэлка казала Хлебу:

– Я важнейшая за цябе! Мяне з раніцы да вечара купляюць, каб павесяліцца і настрой падняць. Ты ж патрэбны чалавеку толькі тады, калі ён галодны.

Гарэлка жыццё забірае, а хлеб дае гэтае жыццё.



## Крот і Хлебароб

Крот насміхаўся з Хлебароба:

– Я на тваім полі ўладар. Дзе хачу, там і пракладаю свае падземныя тунэлі, адзначаючы іх землянымі ўзгоркамі. І ты не можаш мне забараніць гэтага.

Хлебароб паставіў пасткі і злавіў Крата.

Самахвальства ніколі не даводзіць да дабра.



## Плаціна і Рэчка

Плаціна хвалілася:

– Рэчка – гэта што? Вада... Толькі дзякуючы мне ведаюць пра яе.

А між тым, пабудавалі плаціну на рацэ. І не сакрэт, што без вады не бывае плаціны.



## Певень і Бусел

Певень фанабэрыўся перад Буслом:

– Хто ты, а хто я? Ты маеш адну бусліху, а ў мяне цэлы гарэм курэй! І гаспадарскія, і суседскія.

Бусел з бусліхаю ў пары ўсё жыццё разам, а Певень, дзе ўбачыць курыцу, туды за ёй і бяжыць. Дык ці варта хваліцца?



## Ручай і Рака

Ручай хваліў сябе:

– Я жэўжык-пястун, дзе хачу, там і бягу. А ў цябе, Рака, у жыцці адно рэчышча.

Рака ва ўсе поры года застаецца ракою, а жыццё ў ручая толькі веснавое.



*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*

Віншуем!

# Ганаду Чарказяну — 70!

## Непарыўна паяднаны з Беларуссю




Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Свой сямідзясяты дзень нараджэння сёлета адзначае беларускі пісьменнік Ганад ЧАРКАЗЯН. Выходзец з Арменіі, курд па нацыянальнасці, у душы ён — сапраўдны беларус, бо наша краіна стала для Ганада Бадрыевіча другой Радзімай. Тут ён закончыў Беларускі політэхнічны інстытут, працаваў у сталічных будаўнічых арганізацыях. У Мінску выйшла і першая кніга вершаў пісьменніка «Трываласць» (1980). Паэзія Ганада Бадрыевіча — своеасаблівы сплаў усходняй філасофскай разважлівасці з жыццёвай чуйнасцю і назіральнасцю. Аўтар выдаў больш за 20 кніг вершаў і прозы, перакладзеных на беларускую і рускую мовы з курдскай і армянскай. Сярод іх і зборнікі для дзяцей: «Казкі дзеда Ганада» (1996), «Пумпур у калясцы» (2004).

Не абмінуў творчай увагай Ганад Чарказян і гумарыстычную ніву. Яго жартоўныя і сатырычныя вершы вызначаюцца своеасаблівым стылем — з алегарычным намёкам, нечаканымі супастаўленнямі, тонкай іроніяй, загадкавым прыўсмехам у падтэксце. Нездарма пісьменнік з'яўляецца пастаянным аўтарам нашага часопіса, а яшчэ — добрым сябрам рэдакцыі. Мы з задавальненнем чакаем кожнага новага візіту Ганада Бадрыевіча, падчас якога ён абавязкова раскажа вясёлую гісторыю, прачытае свежы верш, пакажа фотаздымкі вожыкаў, што пасяліліся ў яго на дачы... Ад усёй душы жадаем імянінніку моцнага здароўя, невычэрпнага аптымізму і творчых здзяйсненняў!

## Мініяцюры

**Ганад ЧАРКАЗЯН**

### Жыццё як жыццё

У грамадстве і творчых саюзах усё, як у старой курдскай прыказцы: «У адных дом гарыць, а іншыя альбо грэюцца, альбо смажаць на гэтым агні семачкі».

### Клопат пра калегу

Калі ў злодзея на галаве шапка гарыць, былы злодзей папракае яго: «Навошта ты яе апрануў!»

### Відавочнае неверагоднае

Лайдаку тлумачаць, што «той, хто не працуе, той не есць», — гэта закон. Гультай доўга думае і, нарэшце, здзіўляецца: «Дык па законе атрымліваецца, што да трыццаці гадоў я і не еў?»

### Гістарычнае

Скупы чалавек лямпу на двары вешае нізка, каб не асвятляць суседскі ўчастак.

### Страх

Тыгр не палохае. Жахліва не заўважыць яго ў час.

### Пытанне

Можна напісаць шмат кніг. Можна нават надрукаваць іх. Пытанне ў іншым: ці патрэбны яны камусьці, акрамя цябе?

### Пра сон

Ідучы спаць, мала хто думае, што можа ўжо ніколі не прачнуцца. Звычайна людзі думаюць, як даўжэй паспаць.









# НОВЫЯ АРЫЕНЦІРЫ

*Іранеска*

– Скажыце, калі ласка, як прайсці да фітнес-клуба «Кенгуру»?

– Ён тут непадалёк! Зараз будзе салон «НордКамфорт», за ім – агенцтва «ІнТурТрэвел», затым фірма «Пекер-сістэмс». Злева ўбачыце краму «Армада дэ люкс», за ёй сэканд-хэнд «Дэжавю», потым павернеце направа каля бюро падарожжаў «Мега Сіці» і там, побач з крамай жаночага адзення «Гудалюкс» і групай кампаній «Ілютэкс Про», у будынку дыскаўнтара «Востраў здароўя», знаходзіцца патрэбны вам фітнес-клуб «Кенгуру».

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.





Малюнак Алега ГУЦОЛА.

# АНЕКДОТЫ

* * *

Паўсюль падман! Купіў пральны парашок, на ім напісана: «Сто грамаў бясплатна». Адкрываю, а там толькі парашок...

* * *

У аптэцы:

– Дайце мне тэст на цяжарнасць.

– Які?

– Адмоўны, калі можна!

* * *

З размовы паміж сябрамі:

– Вычытаў у газеце, што вучоныя знайшлі новы спосаб зачацця.

– А чым ім стары не падабаўся?

**Даслала Тамара СЕНКЕВІЧ,**
*г. Навагрудак.*



# Такі прывітанне з Адэсы!

*Калі запытаць у нашага суайчынніка пра беларускую сталіцу гумару, ён без роздумаў узгадае знакамітыя Аўцюкі. Калі ж папрасіць назваць самы вясёлы горад у выхадца з постсавецкай прасторы, у адказ напэўна пачуеш: «Адэса!» І сапраўды, гаворку адэсітаў не зблытаеш з ніякай іншай: яна багатая на трапныя выразы, смешныя выслоўі, нечаканыя і часам парадаксальныя параўнанні. У гэтым нядаўна пераканаўся і «Вожык», узяўшы невялікі адпачынак і махнуўшы ў сонечны горад пакупацца і, вядома ж, паўсміхацца.*

*Вытокі адэскага гумару – у асаблівым спосабе мыслення і ладзе жыцця жыхароў горада. Многае для нас тут непрывычна. Узяць хоць бы транспарт: у маршрутках і тралейбусах прынята плаціць не пры ўваходзе, а пры выхадзе. Можна пачуць, як пасажыр крычыць на ўвесь салон: «Успенская задняя!» Думаеце, ёсць вуліца з такой дзіўнай назвай? А вось і не: проста ён хоча выйсці на прыпынку праз заднія дзверы. Калі вы пацікавіцеся ў таксіста, колькі будзе каштаваць праезд па пэўным адрасе, ён зусім сур'ёзна запытае: «А колькі не шкада?» Вось тут можна і патаргавацца!*

*У тым, што адэсіты любяць пажартаваць, лёгка ўпэўніцца, проста паблукаўшы па вуліцах і дворыках горада. Гумарам прасякнуты надпісы на рэкламных шчытах, назвы некаторых крам і кавярняў ды і проста запіскі ці аб'явы, пакінутыя жыхарамі ў пад'ездах. Прапануем вам вясёлую фотасправаздачу з паездкі, а таксама падборку лепшых анекдотаў з гасціннага горада ля мора.*

– Добрай раніцы, спадар Кон. Куды гэты вы так спяшаецеся?

– Ды вось, вырашыў застрахаваць сваю дачу ад пажару і граду.

– Ад пажару – гэта я разумею. Але як вы зробіце град?

* * *

Сустракаюцца два габрэі. Адзін другому кажа:

– Слухайце, вы збіраецеся аддаваць доўг? Вось ужо год, як вы пазычылі ў мяне пяць тысяч.

– Хвілінку, як вашае прозвішча?

– Зіскінд.

Той разгортвае нататнік і зачытвае:

– Абрамовіч – выкраслены, Гурэвіч – выкраслены. Зіскінд... Усё правільна, тут у мяне пазначана: пяць тысяч.

– Ды пляваць я хацеў на вашыя запісы! Дзе грошы?

– Паслухайце, будзеце так са мной размаўляць, я вас таксама выкраслю.

* * *

Кандуктар ходзіць па вагоне.

– Плацім за праезд! Грамадзяне, за праезд. За праезд.

Абрамовіч уздымае бутэльку з півам:

– За праезд!



* * *

– Цыля Майсееўна, як ваш галаўны боль?

– Пайшоў гуляць у прэферанс.

* * *

Па пероне ходзіць адэсіт з вялізнай торбай.

– Купляем свежыя газеты, хто не паспеў! Анекдоты, крыжаванкі, спорт...

– Мне, калі ласка, анекдоты, – звяртаецца да яго мужчына.

Адэсіт ставіць сумку з газетамі, адкашліваецца і пачынае:

– Вяртаецца, значыць, муж з камандзіроўкі...









* * *

— Скажыце, гэта вы ўчора выцягнулі з палонкі майго Ромачку?

— Так.

— І магу я спытаць, дзе тады ягоны капялюшык?

* * *

У Адэсе на цэнтральнай вуліцы знаходзяцца тры швейныя майстэрні. На першай шыльда: «Самы лепшы шавец у краіне». На другой — «Самы лепшы шавец у Адэсе». На трэцяй — «Самы лепшы шавец на гэтай вуліцы». Вось да трэцяга ўсе і ходзяць.

* * *

У адэскай краме.

— Малады чалавек! Я ўжо трэці раз прашу: дайце мне бляшанку сардзін!

— Я чую, чую... Але ж вы не кажаце, якія вам трэба: іспанскія, французскія, мараканскія...

— А якая мне розніца? Што я з імі, размаўляць буду?

* * *

Бабулька на рынку «Прывоз» кажа прадаўшчыцы:

— Хацела купіць пяць кіло бульбы, ды баюся, што не данясу.

— Бярыце, бабуля, — супакойвае прадаўшчыца, — я для вас так узважу, што данясеце.

* * *

З размовы паміж адэсітамі.

— Ці не зойдзеце папіць гарбаткі?

— А чаму б і не?

— Ну не, дык не.

* * *

— Гэта праўда, што ў Адэсе заўсёды адказваюць пытаннем на пытанне?

— Хто вам гэта сказаў?!

* * *

З размовы сяброў-адэсітаў:

— Ведаеш, Фіма, да жаніцьбы я і не падазраваў, што малако можна паставіць у халадзільнік няправільна...

* * *

Рабіновіч засоўвае картку ў банкамат, а той выдае паведамленне: «Недастаткова сродкаў».

— Гэта-такі ў мяне ці ў банка? — падумаў Рабіновіч.



* * *

У адэскім рэстаране.

— Афіцыянт, у мяне кубак трэснуты!

— Ой, ну шо я вам магу на гэта сказаць... Вось такая ў нас моцная кава!

* * *

— Рукі маёй дачушкі Басі прасілі адразу двое: інжынер і адвакат.

— І хто ж шчаслівчык?

— Інжынер. Яна выйшла замуж за адваката.

* * *

— Доктар, вы прасілі паказаць язык, такі я трымаю яго ўжо дзесяць хвілін! Вы будзеце нарэшце глядзець?

— Прабачце, мадам Рабіновіч, я проста хацеў напісаць вам рэцэпт у ціхай абстаноўцы...

* * *

— Яша, мы з табой самыя няшчасныя людзі на свеце...

— Сарачка, чаму ты так лічыш?

— Мы жывём каля мора, нам нават у адпачынак паехаць няма куды!














**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Прыклад вялікіх

*Гумарэска*

Тынкоўшчык Васечкін загарэўся ідэяй стаць пісьменнікам. У адзін з доўгачаканых выхадных, азнаёміўшыся з чарговым раманам, мужчына цвёрда вырашыў напісаць дэтэктыў на будаўнічую тэму. Ён неадкладна сеў за стол, але натхненне ніяк не прыходзіла, талент у поўнай цішыні не нараджаўся і будучае неўміручае тварэнне на паперу не клалася.

«Трэба павучыцца ў вялікіх», — падумаў Васечкін і ўзгадаў, што вычытаў калісьці ў газеце пра класіка сусветнай літаратуры Антона Чэхава, які сядаў за працу толькі ў вячэрнім гарнітуры. Апрануўшы свой лепшы касцюм, за наступную гадзіну будучы інжынер чалавечых душ апісаў пачатак працоўнага дня на будоўлі. Далей сюжэт з месца не кранаўся.

Раптам Васечкін успомніў: французскі пісьменнік Анарэ дэ Бальзак пісаў у цемры, таму нават днём завешваў шторы і запальваў свечкі. «А чаму б не паспрабаваць?» — разважыў мужчына і паўтарыў той жа трук. Гэта дапамагло яму яскрава стварыць вобраз прараба-жуліка. Вывесці махляра на чыстую ваду павінен быў тынкоўшчык Пецечкін, якому аўтар прыпісаў лепшыя ўласныя якасці.

Але праца зноў замарудзілася, слоў для працягу шэдэўра не хапала. Васечкін умомант узгадаў Уладзіміра Набокава, які стоячы запісваў свае думкі на картках.

— Навошта мне крэсла і стол? Буду працаваць, як геніяльны Набокаў! — заявіў выдумшчык.

Намотваючы кругі па пакоі з ручкай і шматкамі паперы, мужчына апісаў момант, як прараб-жулік кінуў двухсэнсоўны погляд на цэмент і дамовіўся з шафёрам, каб той падчас абеду пад'ехаў да ягонага дома. Але метад вялікага пісьменніка хутка перастаў дзейнічаць.

Раптам успомніўся амерыканскі раманіст Трумэн Капотэ, які ўвогуле пісаў лежачы. Васечкін тут жа заварыў каву, заваліўся ў ложак, і, гледзячы ў столь, працягнуў сюжэт дэтыктыва. Як сапраўдны сышчык, Пецечкін прасачыў за дзеяннямі прараба і склаў план па затрыманні махляра. Але куды весці герояў далей, празаік не ўяўляў.

Ды тут на памяць прыйшоў метад нямецкага творцы Фрыдрыха Шылера, які не мог пісаць, пакуль ягоны пісьмовы стол не быў забіты... гнілымі яблыкамі. Іх у тынкоўшчыка не аказалася, таму ў ход пайшлі ўжо чорныя памідоры, якія будаўнік забыўся выкінуць. Натхненне вярнулася, і гісторыя працягнулася: Пецечкін сеў у таксі і рушыў услед за машынай, якая ехала да прараба.

Развязка першай часткі дэтэктыва была блізкая. Але па сюжэце патрабаваўся новы герой. Як яго падаць? І тут Васечкін узгадаў, што Максім Горкі параіў Ісаку Бабелю ў такой сітуацыі паназіраць за людзьмі. Узрушаны пісьменнік накіраваўся ў гастраном. Ён не ведаў, ці знойдзе там патрэбных прататыпаў. Але быў упэўнены, што калі сюжэт не складваецца, а натхненне не прыходзіць, прыклад вялікіх пісьменнікаў яму заўсёды дапаможа.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.






Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

# Эпіграмы

## Віктар РЭЧЫЦ

### Двум творцам

– Міранізмы пастаянна піша
І друкуе ў «Вожыку» іх Міша.
Для сябе прыдумаў гэткі жанр.
Міраніст ён, значыцца, Макар?
– Не зусім з табой, прызнацца,
згодзен,
Бач, малыя формы тут, Мяфодзій.
Я іх міранюлькамі назваў бы –
І дакладней гэта, і прывабней.
– Гумарыстка Багдановіч Лёля
Эх, дае таксама словам волю.
Праўда, жанру ўласнага не мае.
– Багдалёлікамі хай жа называе
Карацелькі розныя свае,
Як запалу творчага стае.
– А калі двух творцаў аб'яднаць?
– Значыць, будуць
мірабагдаваць.

## Мікола ШАБОВІЧ

### Васілю Найдзіну

Калі самота ахінае,
Паклічце Найдзіна на сцэну.
Ён вам такое прачытае –
Запомніце і без рэфрэнаў.
Падсыпаць перцу Вася ўмее,
Аж хлопец з Афрыкі збялее.

### Казіміру Камейшу

І жнец, як кажуць, і сявец,
Сваю заўжды наструніць ліру.
Ён і ў грудзях, і ў іншым спец.
Нічым не здзівіш Казіміра!

### Дзмітрыю Пятровічу

Пятровіч сярод нас – універсал:
І верш складзе, і музыку напіша.
А трэба – свой пакажа ён вакал,
Шчымлівай песняй сэрцы
ускалыша.
Нядаўна здолеў прозу напісаць...
Дай бог яшчэ і драматургам
стаць!






# КИПЭРУШ

## Карацелькі

Аб'ява: «Хто шукае краму якаснага абутку, тэрмінова звяртайцеся да Георгія Пятровіча, то бок да мяне. Будзем шукаць разам».

* * *

Размаўляюць дзве суседкі:

– Я заўважыла, што пасля таго, як мы з любым ажаніліся, я стала для яго больш каштоўнай.

– Як ты гэта вызначыла?

– Да заключэння шлюбу ён называў мяне кураняткам, а цяпер – авечкай.

* * *

– Слухай, хлопча, у мяне тут тры дачкі на выданні: адной я аддаў кватэру, другой – лімузін, трэцяй – гараж. Якую будзеш сватаць?

– Усіх трох!

* * *

Нашыя продкі казалі: «У бядзе і рак – рыба».

Мы кажам: «У бядзе і косткі – мяса».

* * *

Ён так ветліва са мной абыходзіўся, што я адчуваў сябе госцем ва ўласным доме.

**Пераклад з малдаўскай Дзмітрыя ЛІКУ і Ганны КІСЛУШЧАНКІ.**



Малюнак В. ЮЛІАН.




Малюнак С. ЮРКУ.









Малюнак Валкрыу КУРТУ.



Малюнак Юрые РУМЯНЦАВА.

## На доўгую памяць

Памятаеце, быў час, калі ўсе абменьваліся адзін з адным фотаздымкамі? Цудоўная традыцыя дазваляла ўзгадваць па картках старых сяброў і знаёмых нават праз многа гадоў. З'ява гэтая амаль што знікла, а вось звычка дарыць фота ў некаторых людзей засталася.

Нядаўна ў Мінску двое сяброў прагульваліся па беразе Свіслачы, дзе пазнаёміліся з маладым чалавекам. Потым вырашылі адсвяткаваць такую сустрэчу ў кафэ. Выпілі гарэлкі, пагутарылі. Калі адзін з іх паехаў дамоў, новы знаёмы падарыў другому мужчыне свой фотаздымак, маўляў, на доўгую памяць. Пазней хлопец адлучыўся і пакінуў асабістыя рэчы пад наглядам новаспечанага сябра. А калі вярнуўся, то не знайшоў ні курткі, ні партманета, ні чахла ад гітары. Знік і мужчына.

З падораным фота пацярпелы звярнуўся ў міліцыю. Узбуджана крымінальная справа. Зараз вядуцца пошукі. А хлопец і сапраўды надоўга запомніць такога знаёмага, нават без фотаздымка.






## Двойчы на адныя граблі

Ёсць людзі, якія наступаюць на адныя і тыя ж граблі двойчы. У многіх гэта атрымоўваецца выпадкова, але некаторыя ўхітраюцца адключыць розум і зноўку нарабіць старых памылак.

Вось вам такі прыклад. Малады мінчанін два гады таму часта заходзіў да аднаго свайго прыяцеля ў госці. У адзін з візітаў хлопец украў каштоўныя ўпрыгожванні, якія належалі маці сябра. Злодзея затрымалі і пасадзілі ў турму на два гады. Зусім нядаўна ён выйшаў адтуль і пачаў завітваць да старога прыяцеля. Прываблівыя каштоўнасці зноў спакусілі хлопца, і ён украў іх яшчэ раз. Але і цяпер у мінчаніна нічога не атрымалася. Міліцыя хутка знайшла злачынцу і вярнула ўпрыгожванні ўладальніцы. Зараз яму пагражае ўжо чатыры гады зняволення. Можа, гэта астудзіць запал хлопца. Ці трэба чакаць трэцяга крадзяжу?



## Матывацыя гранатай

Здараецца так, што любімая футбольная каманда пачынае метадычна прайграваць матчы. Такі факт часта выклікае абурэнне ў фанатаў. Чаго яны толькі не робяць! І лаюцца, і ганьбяць усіх ігракоў адборнай нецэнзурнай лексікай, і нават бойкі распачынаюць. Але, як паказвае практыка, усё пералічанае часцей не прыносіць аніякага выніку.

Таму жыхар Светлагорска вырашыў пайсці на крайнія меры – прынесці на матч паміж мясцовым ФК «Хімік» і мінскім ФК «Зорка БДУ» гранату. Хто ведае, можа, менавіта так ён захацеў напужаць і матываваць ігракоў гуляць лепш і выйграць спаборніцтва. Але здзейсніць задуманае не атрымалася. Мужчыну, які, дарэчы, так хваляваўся за любімую каманду, што выпіў лішку, каля стадыёна затрымалі міліцыянеры. У дачыненні да дзеянняў жыхара Светлагорска праводзіцца праверка. Як высветлілася, узрывальнік канфіскаванай «лімонкі» быў прабіты, а вось начынне ўяўляла небяспеку. Мяркуем, цяпер футбольны заўзятар адшукае больш бяспечны спосаб матывацыі любімых ігракоў.






КАЦЯЛОК – гібрыд кацяняці і цяляці.

ТРАСКУЧЫ – кучы траскі.

СТРАЎНІК – стары траўнік.

ІМПАНАВАЦЬ – панаваць над ім.

САМАЗВАЛ – звальненне па ўласным жаданні.

ТУГАДУМ – думкі аб невясёлым.

**Даслала Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*






## «Меша»

Калі была яшчэ малечай
І гаварыла вельмі смешна,
Мяне пужалі кожны вечар
Якойсьці невядомай «Мешай».

Калі не слухала бабулю,
Раскідвала па хаце смецце
Альбо паказвала ёй дулю,
Яна заўсёды звала: «Меша!»

А я тады ў куток глядзела,
У вачанятах страх гарэў.
За печ хавалася нясмела
Ці на чарэн, што добра грэў.

Ды ад бабулінай усмешкі,
Ад добрых ласкавых вачэй
Знікала з хаты тая Меша.
Я з печы злазіла хутчэй,

Каб на вялікі ложак легчы,
Накрыцца коўдрай з галавой.
Не знойдзе там дзяўчынку Меша,
Хай не ступае і нагой!

Прайшлі гады (самой пацешна) –
Казала сыну і дачушцы:
«Не слухаеце – прыйдзе Меша
Ды пацягае вас за вушка».

Унукаў Мешай не пужаю:
У іх цяпер другія страхі.
Бабулю часта ўспамінаю,
Смяюся з тых дзіцячых жахаў.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ.

## Бальнічныя музыкі

Шмат музыкаў у бальніцы
Розных катэгорый.
Ноччу мне ад іх не спіцца,
Зведаў з імі гора.
Трубачы, саксафаністы
Давяць гукам звонкім,
Храпам гэтыя артысты
Рэжуць перапонкі.
Хтось іграе на трамбоне,
Нехта – на габоі...
Я ляжу, нібы ў палоне,
З жудасным настроем.
Спяць музыкі без турботы,
А здаецца, быццам
Грае кожны, як па нотах...
Мне ж зусім не спіцца.
Штурхаў я сваіх суседзяў
У бакі і ў спіну.
Прычакаў світанку ледзьве –
Думаў, тут і згіну!

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА
і Андрэя СІДАРЭЙКІ.

## Модны бэйбус

На прыпынку модны бэйбус
Лоўка скочыў у тралейбус.
Хуценька ў куток схаваўся,
Бо плаціць ён не збіраўся.
Не заўважыў бэйбус модны,
Што да зайца стаў падобны:
Косіць вокам у акно,
Ці праверкі не відно.
А кантроль не затрымаўся:
Бац! – і ўжо намаляваўся.
Безбілетнік верць ды круць:
– З зайцаў грошы не бяруць!
– Не, ты заяц ці жырафа,
Не пазбегнеш, браце, штрафу!
Зразумей, нарэшце, бэйбус:
Не бясплатны ў нас тралейбус.
І не забывайся, што
Ты не ў бацькавым аўто.

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

## З павіннай

Захацелася старому
Другі раз жаніцца.
У цырульню ён шыбуе
З думкай пагаліцца.
– Эх, як збрыю бараду я –
Скіну гадоў трыццаць!
Вазьму жонку маладую,
Буду весяліцца.
Да дзяўчат стары імкнецца,
Ды заўсёды чуе:
– Знай, дзядуля, свае месца,
Замуж не хачу я!
Дзед за лета змарнаваўся,
Стаў сівы і тонкі.
Ён з павінаю падаўся
Восенню да жонкі...





## Пытанне да жанатага

У мяне да цябе пытанне:
Дзе, нарэшце, сустрэнемся мы?
Дзе жадаеш прызначыць
спатканне:
Ў лесе ці на марской глыбіні?
Можа, збегчы на полюс Паўночны
Нам ад жонкі тваёй пагроз
І сустрэць Новы год, калі хочаш:
Я – Снягурка, а ты – Дзед
Мароз?
Будзем весела плыць мы на
льдзіне,
Будзем песні пра ёлку спяваць.
Калі поўнач адлічыць гадзіннік,
То з пінгвінамі пойдзем скакаць.
Можа, пабудаваць шалашык
Ці, нібыта індзейцы, вігвам?
Гатаваць на вогнішчы кашу,
Жыць, як некалі з Евай Адам...
А калі не падыдзе і гэта,
Мо на Месяц з табой паляцець?
На блакітную нашу планету
Ў тэлескоп будзем разам
глядзець.
Ды... ці добрае гэта рашэнне?
Вось плывём мы па зорнай
рацэ –
Нібы здань, перад намі імгненна
З чапялой твая жонка ў руцэ!
Нікуды ад яе не схавацца,
Не пазбыцца з табою праблем.
Лепш за гэткую справу
не брацца:
Твая жонка – агент 007!

**Валянціна ХАЛЕЦКАЯ,**
*г. Гомель.*



**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**

## Грыбныя манеўры

Пахне хвойнаю ігліцай
У задумлівым бары.
Звонкі галасок сініцы
Дзесьці чуецца ўгары.
Ў лесе грыбнікоў нямала,
Не сядзіцца дома ім.
Гляньце – баравік крамяны,
Цар грыбоў. Ён са сваім
Цёмнашапкавым атрадам
З маладых баравічкоў
Зноў камандуе парадам:
«Смірна ўсім! Напагатоў
Сродкі нашай маскіроўкі.
Раз – хаваемся ў траве.
Два – з ігліцы робім лоўка
Капялюш на галаве.
Хай грыбнік цяпер шукае:
Хоць танцуе кракавяк,
Хоць кругі хай наразае –
Нас не знойдзе ён ніяк!»



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## Вясковы маркетынг

*З натуры*

Мой аднавясковец дзядзька Максім павёз у горад баравікі на продаж.

На рынку падыходзіць да яго жанчына і пытае:

– Ці чыстыя вашы грыбы?

– Не разумею, – здзівіўся той. – Чыстыя, я ж іх у печы сушыў.

– Ды я не пра гэта. Чарвякоў у іх няма?

– От, маладзіца, што прыдумала! У мяне ж печ гарачая. Як толькі стаўлю ў яе бляху з грыбамі, усе чарвякі адразу ўцякаюць!

Пакупніца ўсміхнулася і набыла ў дасціпнага дзядзькі мяшэчак сушаных баравікоў.

**Аляксей РУСІНОВІЧ,**
*Светлагорскі раён,*
*в. Пятровічы.*



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Ніны БІРЫЛЫ.




**Яніна ЖАБКО**




Не сябруе Рэкс з катом!
Вось і зараз пад акном:
– Гаў-гаў-гаў!
– Мяў-мяў-мяў!
Рэкс ката на дах загнаў.
На Мурлыку ён злуецца:
Лепш за ўсіх кату жывецца.
Яго песціць гаспадыня,
Спіць Мурлыка на пярыне,
Смачныя каштуе стравы,
У сям'і ён – для забавы.
Каб было кату лягчэй,
Стаіць пастка на мышэй.
Рэксу ж няма часу спаць –
Трэба хату пільнаваць.
На сабаку – агарод,
Сад, падворак... Нават кот!
А тым часам пад кустом
Коцік спіць салодкім сном.
Таму Рэкс – нібыта порах:
Кот – яго закляты вораг!

*г. Мінск.*




*Быль*

З самага дзяцінства Ірынку гадавала бабуля ў вёсцы. Маму дзяўчынка не ведала наогул (тая адмовілася ад малой, калі ёй споўнілася паўгодзіка), а тата жыў недзе далёка ў горадзе.

Бабуля вельмі любіла ўнучку, дарыла ёй сваю пяшчоту і ўвагу. Пеставала маленькую, пякла для яе хрушчыкі, тонкія блінчыкі. Дзе якая цукерка ці пернічак – Ірынцы. Дзяўчынка ж заўсёды і ўсім дзялілася з бабуляй. Між іншым, старая і да працы прывучала малечу. Яны разам мылі посуд, падлогу, палолі грады, хадзілі ў лес збіраць грыбы і ягады.

Аднойчы, калі Ірынцы было ўжо гадкоў адзінаццаць, у вясковую краму завезлі марожанае. Вестка пра гэта ўмомант абляцела ўсе двары. Іншыя дзеці паспелі ўжо і паспытаць ласунак. Ірыне таксама хацелася пакаштаваць марожанага. Але якія ў бабулі грошы? Нават папрасіць саромелася.

Але старая, убачыўшы нецярплівы позірк малой, дастала з кішэні маленькі вузельчык, развязала яго і пачала лічыць капейкі:

– На, маё дзіцятка, збегай, вазьмі сабе порцыю.

Ірынка ў адно імгненне злятала ў краму. І хацела, як заўсёды, падзяліцца з бабуляй, але тая катэгарычна замахала рукамі:

– Не, не, еш сама, я не буду! Не хачу, не люблю! Я яго спрабавала!

Дзяўчынка павольна, смакуючы, пачала есці марожанае. Але ўвесь час думала, як жа абхітрыць бабулю, каб яна не змагла адмовіцца ад ласунка. І неўзабаве ёй прыйшла ў галаву ідэя:

– Ой, ой, бабулечка, зуб вельмі баліць! Мусіць, ад халоднага. Ой, не магу болей!

І з гэтымі словамі паваліласся на ложак, прыціснуўшы да шчакі падушку.

– Марожанае ж растане, бабуля, трэба даесці.

Старой нічога не заставалася, як паслухацца ўнучку. А Ірынка, войкаючы, качалася па ложку і краем вока з задавальненнем назірала, як любая бабуля ласавалася марожаным. Перахітрыла-такі!

**Лёля БАГДАНОВІЧ,**
*г. Барысаў.*




Комікс Наталлі КАБЯКОВАЙ.

# Была б вуда, а рыба будзе



**Па гарызанталі:**

**1.** ... павінен падабацца не рыбаку, а рыбцы *(нямецкая прыказка)*. **4.** На тое і ... у моры, каб карась не драмаў *(прыказка)*. **7.** ... вол баразны не псуе *(прыказка)*. **9.** Ансамбль з васьмі выканаўцаў. **13.** Штучная прынада для лоўлі рыбы. **15.** Рыбак, ..., птушкалоў – трое жабракоў *(славацкая прыказка)*. **16.** Кароткі вывад са сказанага, напісанага. **18.** Так у народзе называюць заблытаную лёску. **21.** Бывае летняй і зімняй, марской і прэснаводнай, аматарскай і спартыўнай. **22.** Папярочная лаўка на лодцы для весляроў і пасажыраў. **23.** «У такой глыбіні \\ Ёсць язі, ..., \\ Галаватні, плоткі» *(з паэмы Я. Коласа)*. **24.** Што-небудзь вельмі смачнае.

**Па вертыкалі:**

**1.** Калі ... – грошы, дык самыя багатыя людзі – рыбаловы *(руская прыказка)*. **2.** Глыбокае месца ў рацэ, з ямай, дзе адбываецца завіхрэнне плыні. **3.** Скарачэнне ад слова кіламетр. **4.** Багатае на рыбу возера ў Глыбоцкім раёне. **5.** Упакаваная паклажа, якая перавозіцца на спіне жывёлы. **6.** Хатняя жывёліна, вялікі аматар акварыумнай рыбкі. **8.** Тое, што і ікона. **10.** Рыба – вада, рэпа – зямля, а ягада – ... *(прыказка)*. **11.** Прыадкрыты рот з вышчаранымі зубамі. **12.** У птушак рагавое ўтварэнне з дзвюх сківаў. **14.** Рыба, якая можа лазіць па дрэвах. **15.** Гіганцкая акіянская рыба, «гераіня» аповесці Э. Хэмінгуэя «Стары і мора». **16.** Была б вуда, а ... знойдзецца *(прыказка)*. **17.** Калючы ёрш, але ... смачная *(прыказка)*. **19.** Чым даўжэйшыя ... ў рыбалова, тым менш веры яго байкам *(руская прыказка)*. **20.** Свяшчэнны бык у старажытным Егіпце.

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**

**1.** Чарвяк. **4.** Шчупак. **7.** Стары. **9.** Актэт. **13.** Мармышка. **15.** Музыкант. **16.** Рэзюмэ. **18.** «Барада». **21.** Рыбалка. **22.** Банка. **23.** Акуні. **24.** Ласунак.

**Па вертыкалі:**

**1.** Час. **2.** Вір. **3.** Ку. **4.** Шо. **5.** Уюк. **6.** Кот. **8.** Абраз. **10.** Трава. **11.** Ашчэр. **12.** Дзюба. **14.** Анабас. **15.** Марлін. **16.** Рыба. **17.** Юшка. **19.** Рукі. **20.** Апіс.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

# Вакол бутэлькі




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Рыбацкія мініяцюры



Сцвярджае сябар мой, рыбак заўзяты:
– І дня ў мяне без рыбы не бывае!
Я словам гэтым веру, бо за хатай
Не першы год ён сажалку трымае...

* * *

Пачула раз, як ля ракі
Мужчыны крыўдавалі:
– Чаму не нас, не рыбакоў,
А паляўнічых-лайдакоў
Намаляваў калісь Пяроў
На восеньскім прывале?



**Даслала Галіна МІЦКЕВІЧ,**
*г. Петрыкаў.*




Жыві з людзьмі так, каб твае сябры не сталі ворагамі, а ворагі — сталі сябрамі.

*Піфагор, старажытнагрэчаскі філосаф і матэматык*

На ролю палюбоўніка прыдатны толькі той, каго не сорамна паказаць людзям; на ролю мужа падыдзе ўсялякі.

*Нікаля дэ Шамфор, французскі пісьменнік*

Розум, жадаючы быць занадта тонкім, становіцца незаўважным.

*П'ер Буаст, французскі лексікограф*

Кажуць, што прырода для таго дала два вухі і адзін язык, каб гаварыць менш, чым слухаць.

*Плутарх, старажытнагрэчаскі філосаф і пісьменнік*

Каханне настолькі дрэнна пераносіць дамашнія звадкі, што для трывалага шчасця трэба шукаць адно ў аднаго выдатныя якасці.

*Анарэ дэ Бальзак, французскі пісьменнік*

Адам і Ева маглі быць ідэальнай сямейнай парай: Адаму не даводзілася б слухаць расказы пра мужчын, за якіх яна магла выйсці замуж, а Еве — пра тое, як добра гатавала ягоная маці.

*Ванда Блоньская-Вольфарт, польская журналістка*

Жыццё — не тыя дні, што прайшлі, а тыя, што запомніліся.

*Пётр Паўленка, савецкі пісьменнік*

Нямногія розумы гінуць ад зносу, большая частка іржавее ад неўжывання.

*Крысціян Нэстэл Боўві, амерыканскі пісьменнік-сатырык*

Мужчына ўжо напалову закаханы ў кожную жанчыну, якая слухае, што ён гаворыць.

*Фрэнсіс Бэкан, англійскі вучоны-гуманіст*

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

№ 10 (1537), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 06.10.2016. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,60. Тыраж 969 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Малюнак Алега ПАПОВА.

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



***Каб свет усмешкамі ўпрыгожыць —***
***Выпісвайце, чытайце «Вожык»!***

# Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА ІІ ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 3,40 рублёў,
індэкс 01380, цана 2,70 рублёў,
індэкс 748442, цана 9,70 рублёў,
індэкс 01381, цана 7,70 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

